# «НЕ ЗАКАПАЙЦЕ Ў ЗЯМЛЮ ВАШЫХ ДАРАЎ...»

**НАТАТКІ З НАГОДЫ КАЛЯНДАРНАГА СВЯТА**

Рызыкну пачаць гэтыя нататкі з цытаты. Менавіта яна падштурхнула да разважанняў і прымусіла мяне ўзяцца за пяро. Прыводжу яе з вылучэннем абзацаў — так як у аўтарскім тэксце:

«Жыццё наша — бурнае веснавое разводдзе. Яно не стаіць на месцы, яно развіваецца з дня ў дзень.

Мой запавет вам: ідзіце ў нагу з жыццём, не адставайце, апераджайце яго. Не закапайце ў зямлю вашых дараў, а прымнажайце і аддайце іх народу...»

Гэтыя словы належаць народнаму песняру Беларусі Якубу Коласу. А звернуты яны былі да студэнтаў, якія павіншавалі паэта з яго сямідзесяцігоддзем.

Мудрыя, сапраўды запаветныя словы! Колькі ў іх пераканаўчай жыццёвай філасофіі, якая глыбокая вера ў чалавека, яго здольнасці!

Ці не таму так надзённа і поклічна гучаць яны сёння, у наш віхурны, неспакойны час?

## I.

Глыбокі крызіс, у якім апынулася наша краіна, які агарнуў усе бакі грамадскага жыцця, мусіць, найбольш моцна сцяў маладыя сэрцы, найбольш балюча параніў маладыя душы.

Юнацкая вера — самая шчырая, самая чыстая. Але ж і самая крохкая.

Моладзь горача вітала перабудову. Яна смела рушыла на шырокі прастор жыцця, які адкрыўся ў красавіку 85-га. Дэмакратызм, энергія, няўтольная прага да абнаўлення заўжды перапаўняюць маладую істоту, але далёка не заўсёды знаходзяць выйсце. Колькі пісана-перапісана пра «вечны» канфлікт «бацькоў» і «дзяцей». Здаецца, ужо даўно пара вопытнаму старэйшаму пакаленню набрацца мудрай цярплівасці, а маладой змене — сталай павагі да дарослых. Аднак у жыцці прыходзіць новае пакаленне — і зноў канфлікт з папярэднікамі, з «бацькамі». Бо грамадства бязлітаснае ў сваіх адвечных прынцыпах: «дзеці» павінны дарабляць, дабудоўваць тое, што «бацькі» недарабілі, недабудавалі. Ідэя перабудовы захапіла моладзь, уцягнула яе ў сваю арбіту мажліва таму, што ўпершыню ёй прапанавалі перабудоўваць тое, над чым дзесяцігоддзямі пацелі «бацькі».

Каму ж даспадобы, калі яго справу, працу рук яго ганьбяць. «Бацькам» сапраўды крыўдна. Такое нядолішча перажылі: і працавалі да мазалёў, і нагаладаліся, і нагараваліся. Адной мінулай вайны нікому б не зычылі: мільёны жыццяў згарэла ў яе агні. А сёння на кожным кроку папракаюць застоем. Хай бы моладзь працягнула руку, узяла б «эстафетную палачку» і несла б яе далей. Але ж маладыя бачылі, што быў «фальстарт», што на «дыстанцыі» мацнейшыя ставілі «падножку» слабейшым, кагосьці ні за што ні пра што піхалі ў спіну. А да зорнага фінішу яшчэ далёка-далёка. Дык ці не лепш пачаць усё спачатку? І яны патрабуюць вярнуцца на зыходную пазіцыю. А «бацькі» ўжо выбіліся з сіл і на «новы старт» не згладжаюцца. «Дзеці» ж у сваім рашэнні непахісныя...

...Мне часам думаецца, што прыкладна ў такой сітуацыі апынулася наша грамадства ў сярэдзіне 80-х. Пачынаўся вялікі паход па шляху абнаўлення, і краіна з надзеяй глядзела на моладзь. Без маладых, свежых сіл адпраўляцца ў далёкую, цяжкую дарогу было б рызыкоўна.

...Дарога аказалася нязведанай і неверагодна цяжкай. Хутка высветлілася, што на руках ніводнага компасу, што нават карты маршрута ў арганізатараў паходу няма. «Бацькі» ўсё больш і больш адставалі, і неўзабаве маладыя засталіся сам-насам са сваёй марай першымі ўбачыць новыя гарызонты. Вакол непраходны

### Заўтра—Дзень савецкай моладзі

гушчар, сапсавалася надвор'е, канчаецца харч. Той-сёй не вытрымлівае нервовага напружання, узнікае спрэчка. Удзельнікі паходу міжволі раздзяляюцца на групы і групкі, у кожнай — свае інтарэсы. Больш здольныя і больш спрытныя, не марнуючы час, абышлі наваколле і папоўнілі свае харчовыя запасы. Другія — бесклапотна спяваюць ля вогнішча. Трэція — проста заваліліся спаць. Пасля непрацяглай перадышкі зноў паўстае пытанне: куды ісці? Небасхіл заваклалі густыя чорныя хмары, і нават аптымісты страчваюць веру ў тое, што ўдасца дайсці да запаветнай мэты. Але і назад дарогі няма...

...А гэта, на мой погляд, тыповая «карціна» пачатку 90-х гадоў, нашых дзён.

Што ж далей? Ці вернецца да юнакоў і дзяўчат вера ў новую светлую будучыню, якую паабяцалі ім зусім нядаўна, на пачатку перабудовы? І хто дапаможа вярнуць яе?

## II.

Моладзь абавязкова знойдзе правільную дарогу ў будучыню. Пройдзе праз усе выпрабаванні, але ў рэшце рэшт стане гаспадаром сваёй долі. Такі спрадвечны, няўмольны закон жыцця. Бо ёй таксама прадвызначана лёсам ператварыцца ў «бацькоў», перадаць эстафету сваім паслядоўнікам, сваім «дзецям».

Дзіўна, што гэтую простую ісціну чамусьці недаацэньваюць як пачынаючыя, так і вопытныя палітыкі. Сёння ніводная палітычная партыя не будзе падтрымана маладым пакаленнем, калі рашуча не адрыне стары дагматычны прынцып «весці моладзь за сабой». Юнацтва ідзе сваёй дарогай, і нікому гэтай хады не спыніць. І, відавочна, толькі тыя палітычныя сілы могуць разлічваць на яго прыхільнасць, якія будуць побач з ім. Не наперадзе, а побач, плячо ў плячо. Калі палітыкі не скінуць з сябе правадырскі «тынк», не зоймуцца ўсур'ёз вырашэннем маладзёжных праблем, іх чакае незайздросны лёс.

Нельга не заўважыць, што палітычныя партыі, якія ўтварыліся ў апошні час на Беларусі, не маюць шырокай падтрымкі ў маладзёжным асяроддзі. Чаму? Тут шмат прычын. Але адна з галоўных, на маю думку, заключаецца ў тым, што юнакі і дзяўчаты з недаверам аднесліся да іх папулісцкіх праграм. Моладзь вельмі адчувальна рэагуе на ўсялякі фальш. А «фальшывую ноту» ў адносінах да яе з першых дзён свайго існавання «ўзялі» многія новыя партыі. Што ж тычыцца канкрэтных спраў у імя інтарэсаў маладой змены, то ні адна з іх пахваліцца гэтым не можа.

У чый жа бок скіроўваюцца сёння палітычныя сімпатыі моладзі, якой партыі яна аддае перавагу?

Мне, як камуністу, безумоўна, хацелася б, каб юнакі і дзяўчаты былі гарачымі прыхільнікамі ідэй і практычных дзеянняў Кампартыі Беларусі. Здавалася б, падстаў для добрых спадзяванняў дастаткова. Гістарычны шлях КПБ сведчыць пра тое, што камуністы рэспублікі заўсёды імкнуліся быць шчырымі, па-бацькоўску ўважлівымі ў адносінах са сваімі малодшымі таварышамі-камсамольцамі. І моладзь адказвала на гэта поўным даверам, актыўным удзелам у вырашэнні самых разнастайных задач грамадскага развіцця. Знітаванасць лёсу Кампартыі і камсамола Беларусі — факт, які не патрабуе доказаў. Але было б недаравальнай памылкай лічыць, што гэтыя ўзаемаадносіны — на «вечные времена». Хіба ж не бачым мы, што ў апошні час аўтарытэт КПБ у маладзёжным руху знізіўся, а прыём у рады нашай партыі людзей маладога ўзросту значна скараціўся?

XXXI з'езд Кампартыі Беларусі зрабіў сур'ёзныя захады, каб выправіць гэтае трывожнае становішча. Была прынята спецыяльная рэзалюцыя «Аб маладзёжнай палітыцы Камуністычнай партыі Беларусі». З'езд адкрыта і ясна выказаўся за ідэйнае і арганізацыйнае супрацоўніцтва КПБ з усімі маладзёжнымі арганізацыямі і рухамі сацыялістычнай арыентацыі, падтрымаў дзейнасць камсамольскіх ячэек на прадпрыемствах і ў навучальных установах. Надзвычай важным з'яўляецца тое, што ў рэзалюцыі выкладзены не толькі асноўныя прынцыпы маладзёжнай палітыкі, але і механізм яе рэалізацыі.

Ці працуе гэты механізм? Пасля з'езда прайшло ўсяго паўгода, і, пэўна ж, яшчэ рана рабіць адназначныя вывады. Аднак канструктыўныя падыходы камуністаў рэспублікі да вырашэння маладзёжных праблем акрэсліліся досыць выразна і, будзем спадзявацца, з цягам часу прынясуць свае станоўчыя вынікі. Варта нагадаць, што менавіта XXXI з'езд КПБ рашуча выказаўся за неадкладную распрацоўку Закона аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР. І такі закон, як вядома, прыняты ў першым чытанні на чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

На сістэмную і больш канкрэтную работу з моладдзю накіраваны і меры ўнутрыпартыйнага характару. У Цэнтральным, абласных, гарадскіх і раённых камітэтах КПБ створаны камісіі па пытаннях маладзёжнай палітыкі. Ёсць цяпер і адпаведны штатны сектар у ЦК Кампартыі Беларусі. Сёлета многія гаркомы і райкомы КПБ правялі пленумы па маладзёжнай тэматыцы. Аднаўляецца практыка партыйна - камсамольскіх сходаў, сумесных суботнікаў і іншых мерапрыемстваў.

...Дык што, «чорныя хмары» разыходзяцца? Вось-вось нашы маладыя паплечнікі зноў прызнаюцца ў шчырай дружбе, сваёй «беззапаветнай» адданасці камуністычнай ідэі? Не будзем, як раней, залішне самаўпэўненымі. За гэта мы заплацілі занадта дарагую цану.

Калі мы, камуністы, хочам, каб моладзь прыхільна ставілася да нас, верыла нам, то застаецца толькі адно: і сёння, і заўтра, і паслязаўтра настойліва і самаадданна разам з ёю працаваць, каб жыццё юнакоў і дзяўчат стала матэрыяльна забяспечаным і духоўна багатым, па-сапраўднаму гарманічным і шчаслівым. Бо чалавек нараджаецца для шчасця. І прага да яго найбольш моцная ў юнацкую пару.

## III.

Нядаўна на партыйным сходзе ў адным праектным інстытуце Мінска я выказаў пажаданне камуністам ажывіць работу з моладдзю, аднавіць інстытуцкую камсамольскую арганізацыю. З залы прагучала пытанне: «А вакол якой ідэі аб'ядноўваць сёння моладзь, якую рэальную справу ёй можна прапанаваць?»

Не ведаю, ці задаволіў мой адказ прысутных. А вось пытанне да гэтага часу не выходзіць з галавы. Сапраўды, без пуцяводнай зоркі, якая завецца ідэалам, чалавек жыць не можа. Які ж ідэал натхняе нас сёння? Камуністычны? Вера ў яго ў народзе пахіснулася, хоць ён нічым і не скампраметаваў сябе. Пройдзе час, і гэтая вера вернецца. Але ж нам хочацца насіць нешта светлае, узвышанае ў душы цяпер. Дык дзе яна, тая пуцяводная зорка?

На маю думку, у нас ёсць зорка надзеі. Гэта — ідэя нацыянальнага адраджэння роднай Беларусі, нашай Бацькаўшчыны. Яна наканавана нам гістарычным лёсам. Выпала на долю і старэйшага, і малодшага пакаленняў, якія жывуць зараз на нашай зямлі. У рэалізацыі гэтай ідэі павінны аб'ядноўваць свае намаганні ўсе палітычныя партыі, што дзейнічаюць цяпер на Беларусі.

Нацыянальнае адраджэнне — гэта перш-наперш дасягненне дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі ў супольнасці абноўленай Саюзнай федэрацыі, выхад рэспублікі з глыбокага эканамічнага крызісу.

Нацыянальнае адраджэнне — гэта адраджэнне беларускай вёскі, якой патрэбен руплівы працаўнік, сапраўдны гаспадар на зямлі.

Нацыянальнае адраджэнне — гэта ўваскрэсенне пасля чарнобыльскай галгофы, пакутлівы шлях з атамнага пекла, з якога нам давядзецца выбірацца яшчэ і ў трэцім тысячагоддзі.

Нацыянальнае адраджэнне — гэта вяртанне да нашай духоўнай спадчыны, гістарычных і культурных каранёў, захаванне, развіццё і ўзбагачэнне традыцый і культуры беларускага народа, роднай мовы. Не толькі дэкрэтныя захады, але і маральныя высілкі на гэтай агульнай ніве кожнага грамадзяніна рэспублікі.

Што гэта — адступленне ад камуністычнай ідэі? Занядбанне агульначалавечых каштоўнасцей і інтарэсаў? Думаю, што не. Нацыянальнае — частка інтэрнацыянальнага, агульначалавечага. А камуністычнае «ўзгадавана» на спрыяльнай глебе спалучэння інтэрнацыянальнага і нацыянальнага, дайшло да нас дзякуючы неўміручасці дэмакратычных традыцый, якія выпрацавала і клапатліва захоўвае чалавецтва.

Вось чаму вельмі важна, каб ідэяй нацыянальнага адраджэння «загарэлася» наша сённяшняя моладзь. На жаль, пакуль што мы назіраем толькі асобныя кволыя іскрачкі. Успыхне з іх полымя ці не — залежыць не толькі ад маладых.

У гісторыі Беларусі шмат яркіх старонак, напісаных маладым «почыркам». Успомнім Ф. Скарыну, К. Каліноўскага, М. Багдановіча, У. Караткевіча, М. Казея, нашых сучаснікаў касманаўтаў П. Клімука і У. Кавалёнка, акадэміка У. Платонава... А хто з сённяшніх юнакоў і дзяўчат пакіне «аўтограф» у летапісе Бацькаўшчыны?

Моладзь у нас расце адукаваная, не цураецца працы. А як ёй жывецца? Павышэнне цэн падкасіла перш за ўсё яе дабрабыт. Толькі кожная дзесятая маладая сям'я мае кватэру. У жахлівых умовах працуюць многія навучальныя ўстановы, у тым ліку і Беларускі дзяржаўны універсітэт. Расце злачыннасць сярод маладых людзей...

Хіба ж не сорамна нам за кожны загублены талент, за кожны «зламаны» лёс? Няўжо і надалей будзем шукаць вялікія «зоры» на «небе», не заўважаючы маладых «зорак» на зямлі?

***

Малавата стала ў нашым сённяшнім жыцці, супярэчлівым і трывожным, па-сапраўднаму святочных, светлых дзён. Крызіс ёсць крызіс, ён амаль не пакідае месца для добрага настрою. А душа, асабліва маладая, прагне святла, дабрыні, прыгажосці.

Каляндар падказвае: заўтра свята — Дзень савецкай моладзі. А наўкола столькі маладых твараў...

Дык не будзем скупіцца на віншаванні, абудзім свае пачуцці і ад усяго сэрца скажам:

«Са святам вас, маладыя сябры!»

І, жадаючы юнакам і дзяўчатам шчасця, плёну ў працы і вучобе, услед за Якубам Коласам паўторым:

«Не закапайце ў зямлю вашых дараў, а прымнажайце і аддайце іх народу...»

**І. КАРЭНДА,**
**намеснік загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК Кампартыі Беларусі.**





## Гэта наша «МЭТА»

Так з гонарам гавораць на мінскім вытворчым аб'яднанні «Прамсувязь», паказваючы тэлефонны апарат незвычайнай формы. Адрозніваецца ён ад іншых большай колькасцю кнопак, сучасным дызайнам, прыгожым колерам пластмасы.

Выраб такіх апаратаў наладжаны на «Прамсувязі» дзякуючы супрацоўніцтву з ганконгскай фірмай «Манутэк». «Мэта» (так назвалі яго завадчане) здольна ўтрымліваць у электроннай памяці тэлефонныя нумары, выклікаць «хуткую дапамогу», міліцыю, пажарных адным націскам кнопкі.

Шмат карысных вырабаў выпускаюць у заводскім цэху тавараў народнага спажывання. Сярод іх фурнітура для адзення, электравымяральныя прыборы, прылады для аўтааматараў.

**На здымках:** гэта — наша «Мэта», тэлефонны апарат, які, як адзначаюць спецыялісты, адпавядае ўзроўню лепшых сусветных узораў; добра працуюць ветэраны прадпрыемства Святлана **Прывалава** і Валянціна **Яловік.**

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

### *Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*

**Аб вызваленні таварыша АМЕЛЬЯНОВІЧА Мікалая Уладзіміравіча ад пасады старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларускай ССР**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Вызваліць таварыша **Амельяновіча** Мікалая Уладзіміравіча ад пасады старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларускай ССР па стану здароўя.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

21 чэрвеня 1991 г.
г. Мінск.

### *Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*

**Аб назначэнні старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларускай ССР**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Назначыць старшынёй праўлення Нацыянальнага банка Беларускай ССР таварыша **Багданкевіча** Станіслава Антонавіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

21 чэрвеня 1991 г.
г. Мінск.

### ЗАКОН Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

**Аб унясенні дапаўнення ў артыкул 53 Кодэкса аб шлюбе і сям'і Беларускай ССР**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Унесці ў артыкул 53 Кодэкса аб шлюбе і сям'і Беларускай ССР, зацверджанага Законам Беларускай ССР ад 13 чэрвеня 1969 года (ЗЗ БССР, 1969 г., № 17, арт. 278) наступнае дапаўненне:

Частку другую артыкула пасля слоў «якія з дакладнасцю пацвярджаюць прызнанне адказчыкам бацькоўства» дапоўніць словамі «або паходжанне дзіцяці ад адказчыка».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

20 чэрвеня 1991 г.
г. Мінск.

# І з'явілася слова «беспрацоўны»

**З 1 ЛІПЕНЯ ЎСТУПАЕ Ў СІЛУ ЗАКОН «АБ ЗАНЯТАСЦІ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСКАЙ ССР»**

**Субяседнік карэспандэнта — старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва Георгій Бадзей. Менавіта яго ведамства яшчэ ў дні, калі беларускі парламент толькі абмяркоўваў закон у другім чытанні, прадставіла даныя аб тым, што на пачатак мая зарэгістравана 16,5 тысячы чалавек, якія страцілі работу. Да першага ліпеня гэта лічба павінна павялічыцца яшчэ на 11 тысяч.**

**— Георгій Пятровіч, давайце для пачатку правядзём дзелавую гульню. Скажам, з 1 ліпеня мяне звольнілі (тфу-тфу, вядома). Паспрабавала ўладкавацца сама, але не атрымалася. Што рабіць далей?**

— Я параіў бы на працягу двух тыдняў прыйсці ў службу занятасці і стаць на ўлік, каб забраніраваць дапамогу не на два, а на тры месяцы за кошт былога месца службы і ў памеры свайго сярэдняга заробку, а не вышэйшай мяжы дапамогі па беспрацоўю. Але можа аказацца, што работу прапануюць, тады трэці месяц і не спатрэбіцца. Потым, вядома, з дапамогай службы занятасці шукаў бы работу па сваёй кваліфікацыі.

**— Але ўсё-такі работу я не знайшла, служба занятасці па спецыяльнасці нічога прапанаваць не можа, а тры месяцы прайшлі...**

— Па міжнароднай норме, адзначанай у Канвенцыі МАП (Міжнароднай арганізацыі працы), вам будуць выплачваць дапамогу мінімум 26 тыдняў. Калі і за гэты перыяд работа не знойдзецца, тады давядзецца, відаць, ісці на перападрыхтоўку, набываць іншую спецыяльнасць.

**— А калі я ўмею рабіць нешта іншае, напрыклад, друкаваць на машынцы, працаваць за дысплеем, але няма дакумента, які пацвярджае гэта? Я магу без перападрыхтоўкі прэтэндаваць на такую работу?**

— Сённяшняе заканадаўства не патрабуе абавязковага прад'яўлення такога дакумента пры паступленні на работу. Дастаткова сапраўды даказаць, што ты нешта ўмееш рабіць.

**— Цяпер самы час пагаварыць аб новых тэрмінах, якія паявіліся ў сувязі з Законам аб занятасці. Іх мы з вамі ўжо ўжылі: беспрацоўны, служба занятасці, дапамога па беспрацоўю, перападрыхтоўка...**

— Статус беспрацоўнага яшчэ не прысвоен ніводнаму чалавеку. Ёсць асобы, якія шукаюць работу. Але паколькі закон уступае ў сілу з першага ліпеня, то беспрацоўныя паявяцца ў рэспубліцы толькі ў гэты дзень. Удакладню, што гэты статус атрымае не кожны, а толькі тыя, хто не па сваёй ініцыятыве страціў работу, удзельнічае ў яе пошуках і сапраўды хоча працаваць.

Служба занятасці прыйшла на змену бюро па працаўладкаванню і прафарыентацыі, якія выконвалі пасрэдніцкія функцыі паміж прадпрыемствам і рабочым, больш правільна, дапамагалі прадпрыемствам камплектаваць штаты, якія гэтым гаспадарчаразліковым цэнтрам плацілі. Цяпер размова ідзе аб аказанні дапамогі грамадзянам, таму мяняецца профіль работы бюро. У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў яны павінны быць пераўтвораны ў цэнтры занятасці.

**— Цэнтры занятасці аб'ядноўваюцца пад дахам вашага камітэта?**

— Так, уся сістэма называецца Дзяржаўнай службай занятасці Беларускай ССР. Але гэта не заходні варыянт бірж працы, якія займаюцца толькі падборам і прапанаваннем рабочай сілы. Наш Цэнтр будзе аказваць дапамогу ў прафесіянальнай падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы, выплачваць дапамогі па беспрацоўю.

**— Новыя задачы запатрабуюць, натуральна, новых людзей...**

— Іх трэба было б мець ужо даўно. Але не было праблемы, і кадры не рыхтавалі. Праўда, мы не зусім сядзелі склаўшы рукі: арганізавалі семінар у Мінску з удзелам экспертаў Міжнароднай арганізацыі працы, правялі семінар з нашымі работнікамі па вывучэнню Закона «Аб занятасці насельніцтва Беларускай ССР». Уся бяда ў тым, што закон прыняты позна, хоць у першым чытанні быў гатовы яшчэ ў лютым і ўжо праз тыдзень дапрацаваны. Закон спазніўся, а ўслед і пастанова аб увядзенні яго ў дзеянне, згодна з якой прадпрыемствы і арганізацыі пералічваюць у рэспубліканскі фонд занятасці 1 працэнт фонду аплаты працы. Вось чаму служба занятасці засталася без грошай і памяшканняў (раней бюро былі ў невялікіх пакоях, а прыйдуць дзесяткі, сотні, тысячы чалавек...). Нават Рэспубліканскі цэнтр туліцца на восьмым паверсе нашага будынка. А патрэбен жа і інфармацыйны банк даных, прычым электронны. Цяпер у нас ёсць толькі асновы сістэмы апрацоўкі інфармацыі. А ў ідэале гарады і раёны трэба замыкаць на вобласці і потым - на рэспубліку, каб весці строгі ўлік патрэбнасцей і нават пры неабходнасці пераразмяркоўваць рэсурсы. Між іншым, гэта апошняе вельмі праблематычна, паколькі ў рэспубліцы, як і ва ўсёй краіне, няма сістэмы браніравання жылля, чарнобыльцаў яшчэ ўсіх не перасялілі...

**— Гэта значыць, многія няўвязкі здарыліся з-за таго, што закон спазніўся?**

— Калі б ён быў прыняты яшчэ зімой, ужо была б гатова ўся метадычная дакументацыя, Палажэнне аб службе занятасці. А так мы -забяспечылі свае кадры толькі праектамі палажэнняў аб службе і фондзе занятасці, аб парадку рэгістрацыі беспрацоўных. Яшчэ трэба будзе забяспечыць усе цэнтры бланачнай прадукцыяй. Як паказвае вопыт ФРГ, на кожнага беспрацоўнага трэба заводзіць асабістую справу, нягледзячы на тое, што даныя аб ім закладзены ў камп'ютэр.

**— Калі загаварылі аб сродках, давайце ўдакладнім, ці хопіць іх на тое, каб перавучваць, кампенсацыю плаціць і існаваць службе занятасці з усімі картатэкамі, камп'ютэрамі?..**

— Калі гаварыць аб расходах на ўтрыманне службы, то яны мінімальныя. Хопіць і на тое, каб выплаціць дапамогу.

**— Якой яна, дарэчы, будзе?**

— У законе вызначана так: для тых, хто меў стаж работы не менш як год, у першыя трынаццаць тыдняў будзе выплачвацца 70 працэнтаў мінімальнай заработнай платы. У наступныя 13 тыдняў — 50 працэнтаў. Размер дапамогі абмяжоўваецца двума мінімумамі заработнай платы, які, як вядома, сёння складае 70 рублёў плюс кампенсацыя.

**— Размер дапамог аднолькавы для ўсіх, або нехта мае перавагу?**

— Усё залежыць ад сярэдняй заработнай платы. У каго яна была больш высокай, той атрымае больш. Абмяжоўваецца і мінімальны размер дапамогі — не ніжэй мінімальнай заработнай платы. Але, паўтараю, дапамогу атрымае толькі той, хто прызнаны беспрацоўным.

І яшчэ падкрэслю: уся сістэма занятасці настройвае на стымуляванне працы, а не на дармаедства.

**— А як можна пракантраляваць, з'яўляецца чалавек дармаедам або не? Самі ведаеце, на падман мазгі ў многіх добра працуюць... Скажам, прыйдзе, зарэгіструецца як беспрацоўны, будзе атрымліваць дапамогу і ціхенька недзе працаваць, бо ў самых «спрытных» па некалькі працоўных кніжак...**

— Гэта будзе самай складанай праблемай. Патрэбна нармальная служба занятасці, здольная разабрацца з кожным чалавекам. Я спецыяльна цікавіўся гэтым пытаннем, калі быў у ЗША. Там кожны чалавек мае свой страхавы нумар, які закладзены ў камп'ютэр — машыну не ашукаеш. Калі заўважылі, што той, хто атрымлівае дапамогу,— працуе, у судовым парадку прымусяць выплаціць незаконна атрыманыя грошы.

У Палажэнні аб парадку рэгістрацыі беспрацоўнага, гэта значыць у яго праекце, які знаходзіцца на зацвярджэнні ў Савеце Міністраў БССР, мы прадугледжваем абавязковую рэгістрацыю па месцы пражывання з прад'яўленнем пасведчання асобы, працоўнай кніжкі з адзнакай апошняга месца работы. Мяркуем у далейшым рабіць у працоўнай кніжцы запіс, што чалавек зарэгістраваны як беспрацоўны і з такога чысла яму налічваецца дапамога.

**— Георгій Пятровіч, дзяржаўная служба занятасці будзе мець справу толькі з дзяржаўнымі структурамі ці з прыватнымі таксама?**

— Мы абараняем усіх грамадзян, на якіх бы прадпрыемствах яны ні працавалі. Абавязковаму працоўнаму страхаванню падлягаюць усе. І ўсе прадпрыемствы, незалежна ад форм уласнасці, плацяць узнос у фонд занятасці, які па сутнасці з'яўляецца страхоўкай па беспрацоўю. За кошт гэтага і падтрымліваем усіх наёмных работнікаў. А вось уласніка мы не страхуем.

**— Карацей кажучы, на рынку працы адбудзецца рэвалюцыя?**

— Так, але ў нашай дзяржаве, на жаль, рэвалюцыя суправаждаецца неразбярыхай. Як, скажыце, выплачваць дапамогу? У Германіі ёсць спецыяльныя бальнічныя касы, якія робяць выплаты пенсій, страховак... Арганізаваць касы пры службах занятасці — спатрэбяцца памяшканні, новыя людзі, сейфы, ахова і аўтамабілі для дастаўкі грошай. Перасылаць поштай — два рублі з кожнай сотні пойдуць на выплату пераводу. Ашчадны банк згодзен ажыццяўляць разлікі праз асабовы рахунак, але толькі на дагаворнай аснове, за немалую плату. Уяўляеце, першага ліпеня прыйдуць людзі, 14-га трэба налічыць дапамогі, а ў нас няма ні грошай, ні месца, дзе іх можна атрымаць! Звярнуліся ў мясцовыя Саветы з просьбай аб авансе, за які разлічымся ў трэцім квартале, калі прадпрыемствы перавядуць належныя працэнты ў фонд занятасці. Добра, калі пойдуць Саветы нам насустрач...

**— Як жа не пойдуць, размова ж ідзе аб патрэбах грамадзян, аб дабрабыце якіх і закліканы клапаціцца кіраўнікі гарадоў і пасёлкаў.**

— Калі б гэта было так, то не давялося б у Вярхоўным Савеце тройчы ставіць на галасаванне Закон аб занятасці. А там жа сядзяць тыя ж кіраўнікі гарадоў, якія як быццам і не супраць службы, але не хочуць плаціць ёй, зыходзячы з таго, што пакуль што праблемы беспрацоўя ў рэспубліцы няма. Знаходзяць памяшканні для кааператываў, МП, і толькі для цэнтраў занятасці ў Мінску і ўсіх абласных гарадах, акрамя Гродна, дах пакуль што не знойдзен.

**Л. ПЕРАСЫПКІНА,**
**кар. БЕЛТА.**

# «Канбера» чакае заказаў

### *Зона асаблівай увагі*

Больш года мінула з таго часу, як у нашым інстытуце быў створаны аддзел радыеэкалогіі, асноўным напрамкам якога з'яўляецца распрацоўка і ўкараненне новых метадаў і аўтаматызаваных апаратурных комплексаў для вызначэння ўзроўню забруджанасці мясцовасці радыенуклідамі. Навукова-даследчыя работы праводзяцца ў рамках Дзяржаўнай праграмы ліквідацыі ў Беларусі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, па тэматыцы АН БССР.

Адной з ужо завершаных распрацовак з'яўляецца стварэнне аўтаматызаванай мабільнай радыелагічнай лабараторыі, якая дзейнічае на базе амерыканскага гамаспектраметрычнага комплексу «Канбера». Як вядома, каб скласці карту забруджвання радыенуклідамі той ці іншай тэрыторыі (а гэта вельмі працаёмкі і складаны працэс), карыстаюцца пакуль што ў асноўным традыцыйным спосабам — бяруць вялікую колькасць проб глебы, якія затым даследуюцца ў стацыянарных умовах.

Арыгінальнасць жа нашай распрацоўкі ў тым, што вымярэнне забруджанасці мы вядзём так званым дыстанцыйным метадам, прычым аб'ектамі даследавання з'яўляюцца і сельскагаспадарчыя ўгоддзі, і лясныя масівы, і населеныя пункты. Як гэта робіцца? На машыну ўстанаўліваем «Канберу», якую мы «нашпігавалі» сваімі матэматычнымі методыкамі, і яна вызначае не толькі від радыенуклідаў (цэзій, стронцый і г. д.), але і глыбіню іх залягання, ацэньвае небяспеку забруджаных тэрыторый для чалавека ў час вядзення ім гаспадарчай дзейнасці.

Ці трэба шмат гаварыць аб эфектыўнасці прымянення гэтага метаду, калі даследаванне адразу ахоплівае плошчу ў радыусе да 40 метраў.

Тэрыторыю ж аднаго калгаса ці саўгаса можна абследаваць усяго за некалькі гадзін. І яшчэ. «Канбера» ўстанаўліваецца на розныя віды транспарту, што пашырае магчымасці апаратурнага комплексу.

Вынікі гэтай работы дакладваліся на шэрагу канферэнцый і нарад рэспубліканскага, саюзнага і міжнароднага значэння. У праграму аднаго такога форуму была ўключана выстаўка прыбораў і абсталявання для маніторынгу навакольнага асяроддзя метадамі наземнага, самалётнага і спадарожнікавага базіравання. Мэтай яе было выяўленне лепшых метадаў і сродкаў комплекснага вырашэння экалагічных задач.

Наша ўстаноўка выклікала цікавасць ва ўдзельнікаў выстаўкі і спецыялістаў, якія выказалі агульную думку: методыка і сама лабараторыя з'яўляюцца арыгінальнай і канкурэнтаздольнай распрацоўкай. І вельмі дзіўна і незразумела, што ні ў вобласці, ні ў рэспубліцы сёння не знайшлося ніводнага пастаяннага заказчыка, які б быў зацікаўлены ў правядзенні падобных даследаванняў. Між тым, неабходнасць у іх відавочная.

За перыяд з часу стварэння апаратуры былі абследаваны розныя па тэрыторыі аб'екты (дзіцячыя сады, вёскі, сельскагаспадарчыя ўгоддзі і г. д), на камерцыйнай аснове ці ў ініцыятыўным парадку. Работы гэтыя мы можам выконваць і далей. Дык хто ў рэспубліцы зацікавіцца «Канберай»?

**Ю. ЖУЧЭНКА,**
**загадчык аддзела Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР.**

